## Жупраны (Ашмянскі раён)




**У Петрапаўлаўскім касьцёле (1854-75) мемарыяльная дошка Францішку Багушэвічу, заснавальніку беларускай літаратуры, удзельніку паўстаньня.**




**Помнік Францішку Багушэвічу ў цэнтры мястэчка.**




**На могілках каля касьцёлу пахаваны Францішак Багушэвіч і яго сям'я, на магіле паэта помнік.**

# Кушляны (Смаргонскі раён)



**На сядзібе Францішка Багушэвіча драўляная альтанка з назвай “Расьпятая воля”, зробленая паэтам у памяць ахвяраў паўстаньня 1863 г.**



**Фрагмент музейнай экспазіцыі.**



**Алея паўстанцаў.**




**Непадалёк ад сядзібы камень Мацея Бурачка, устаноўлены сялянамі ў гонар паэта ў пач. 20 ст.**



## Нача (Вараноўскі раён)



Каля мясцовага касьцёлу магіла Тодара Нарбута, заснавальніка айчыннай гістарыяграфіі, бацькі Людвіка Нарбута.



Памятны знак у гонар паўстанцаў 1863 г. (усталяваны каля касьцёлу ў 1988 г.).

## Шаўры (Вараноўскі раён)



Магілы роду Нарбутаў.



Валун з памятнай шыльдай у гонар Нарбутаў.



## Сьвіслач



**На мясцовых могілках справа ад праваслаўнай капліцы помнік Віктару Каліноўскаму, ідэолагу паўстаньня, старэйшаму брату Кастуся Каліноўскага. Помнік адноўлены ў сярэдзіне 1990-ых мясцовымі краязнаўцамі і гарадзенскімі грамадзкімі актывістамі.**



**У цэнтры гораду помнік Кастусю Каліноўскаму (аўтар бюста скульптар Заір Азгур).**






**У цэнтры гораду на так званай “алеі герояў” помнік Рамуальду Траўгуту, апошняму кіраўніку паўстаньня 1863 г. Помнік пастаўлены ў 1928 г., адноўлены ў канцы 1980-ых.**

**Будынак былой Сьвіслацкай гімназіі (цяпер прыстасаваны пад шпіталь), дзе вучыліся многія выдатныя навукоўцы, творцы, грамадзкія дзеячы – удзельнікі паўстаньня 1863 г.**

## Якушоўка (Сьвіслацкі раён)



**Падмуркі былой сядзібы Каліноўскіх. Фальварак Каліноўскія набылі ў 1849 г. Падмурак выяўлены ў час раскопак 1987 году пад кіраваньнем археолага Міхася Ткачова.**






**Камень з памятнай шыльдай.**



**Шасьціканцовы крыж у гонар паўстанцаў, усталяваны і асьвечаны ў 1997-ым годзе.**

## Азёры (Гарадзенскі раён)



**На мясцовых местачковых могілках пастаўлены вялікія драўляныя крыжы. На адным зь іх шыльда “Магіла паўстанцаў 1863 г”. Тут пахаваньне невядомых паўстанцаў з атраду Аляксандра Лянкевіча.**



## Святое Балота (Гарадзенскі раён)



**Месца бітвы паўстанцаў з расейскімі войскамі. На гары ў балоце пастаўлены крыж і пасаджаны дубок.**

## Віцькі (Гарадзенскі раён)



**Непадалёк вёскі ёсьць так званы "Канюхоўскі роў" – месца пахаваньня пасечаных паўстанцаў 1863 г. з Пескаўскага атраду. На беразе Нёмана ў 2015 годзе ўсталяваны памятны крыж.**

## Кадыш (Гарадзенскі раён)



**22 траўня 1863 году тут адбыўся пераможны бой паўстанцкіх атрадаў з расейскімі карнікамі. У лесе паблізу вёскі брацкая магіла паўстанцаў, на магіле крыж. Памятныя крыжы і помнік усталяваны і асьвечаны ў 2011-ым годзе.**



## Гародня



Памятны знак ля будынку чыгуначнага вакзалу.




Помнік пісьменьніцы Элізе Ажэшцы, удзельніцы паўстаньня.

## Луна (Мастоўскі раён)







Помнік роду Каменскіх – удзельнікаў паўстаньня 1863 г.



## Мінявічы (Мастоўскі раён)



**Сімвалічны крыж-помнік на магіле 40-ка паўстанцаў 1863 г., актыўнымі ўдзельнікамі паўстаньня былі мясцовы ўладальнік маёнтку Ян Каменскі, жыхары Алесь Карась, Максім Барэйка.**

## Пацавічы (Мастоўскі раён)



**У ваколіцах вёскі ў лесе помнік на магіле дванаццаці паўстанцаў 1863 г. Помнік быў пастаўлены ў 1933 г., адноўлены ў 2011 г.**



**Сквер закладзены ў цэнтры мястэчка ў гонар 175-ых угодкаў Валеры Урублеўскага, памятны камень з напісам.**

## Жалудок (Шчучынскі раён)




**У касьцёле шыльда (усталявана ў 2005 годзе) у памяць вікарага Станіслава Ішоры, які служыў у мясцовым храме і быў расстраляны ў Вільні 24 траўня 1863 за ўдзел у паўстаньні.**

## Ішчална (Шчучынскі раён)




**У касьцёле шыльда ў памяць ксяндза Адама Фалькоўскага, які быў растраляны ў Лідзе 10 чэрвеня 1863 году за чытаньне вернікам паўстанцкага маніфэсту.**

## Мохавічы (Лідскі раён)



**За Мохавічамі ў кірунку вёскі Раклеўцы сярод поля магілы паўстанцаў з помнікамі-камянямі. У 1995-ым тут усталяваныя драўляныя крыжы. Магчыма на гэтым месцы пахаваны паўстанцы атраду Людвіка Нарбута.**

## Ліда




**На могілках паблізу капліцы помнік Валерыі Цехановіч, удзельніцы паўстаньня, якая пражыла 92 гады.**




**Пры касьцёле Найсьвяцейшай Дзевы Марыі (1932), у мікрараёне Слабадскі ўсталяваны помнік у гонар Людвіка Нарбута з шыльдай 1938-га году і новай шыльдай 2013 году.**




У цэнтральным гарадскім парку на вуліцы Міцкевіча камень-помнік ксяндзу Адаму Фалькоўскаму, які быў расстраляны прыблізна на гэтым месцы. Камень усталяваны ў 2010-ым годзе.




Капліца Сьвятой Барбары на каталіцкіх могілках. 13.7.2003 у капліцы ўсталявана мемарыяльная дошка расстраляным сьвятарам Ішору, Зямацкаму і Фалькоўскаму (скульптар Рычард Груша).

## Нянькава (Навагрудзкі раён)




Пры дарозе на Любчу памятны камень. Тут жыў з 1878 - да пач. 1900-ых Уладзіслаў Дыбоўскі (18.4.1838-27.7.1910), удзельнік паўстаньня 1863 г., заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог, фальклaрыст. Сядзіба зьнішчана ў другую сусьветную вайну.



## Войнава (Навагрдзкі раён)





**Непадалёк Любчы, дзе быў маёнтак, пахаваны Уладзіслаў Дыбоўскі, на магіле помнік.**

## Сянно (Навагрдзкі раён)






**Радзіма Адама Пуслоўскага, удзельніка паўстаньня 1863 году, расстралянага па загадзе Мураўёва-вешальніка. Паблізу Сянна родавы пахавальны склеп і помнік-крыж.**



Аўтар-укладальнік Уладзімір Хільмановіч,
фота аўтара, Войцэха Шэўчака, Алеся Кроя,
а таксама з архіву Віктара Сазонава
і Уладзіміра Хільмановіча.

Буклет выраблены ў рамках сьвяткаваньня Дня памяці
паўстанцаў 1863 году ў 2015 годзе






